Хрысціянскія

# Храмы Беларусі

*НА ФОТАЗДЫМКАХ ЯНА БАЛЗУНКЕВІЧА*

*Пачатак XX стагоддзя*





ХРЫСЦІЯНСКІЯ ХРАМЫ БЕЛАРУСІ

# Да двухтысячагоддзя Ісуса Хрыста









# ХРЫСЦІЯНСКІЯ
# ХРАМЫ БЕЛАРУСІ

**НА ФОТАЗДЫМКАХ ЯНА БАЛЗУНКЕВІЧА**
*Пачатак XX стагоддзя*

**Christian Churches and Temples of Belarus in the pictures of Ian Balzunkevich, early XX century**

*2-ое выданне*

Мінск «Ураджай»
2001

Рэдакцыйны савет: *Я.В.МАЛАШЭВІЧ* (старшыня), *В.Д.ЗАЙЦАЎ*, *У.А.ГЕРАСІМОВІЧ*, *А.М.ХІЛЬКЕВІЧ*

Аўтар уступнага артыкула і подпісаў пад ілюстрацыямі *А.М.КУЛАГІН*

Укладальнікі *А.М.КУЛАГІН*, *У.А.ГЕРАСІМОВІЧ*

Мастакі *Э.Э.ЖАКЕВІЧ*, *А.М.ХІЛЬКЕВІЧ*

**ХРЫСЦІЯНСКІЯ ХРАМЫ БЕЛАРУСІ**
**НА ФОТАЗДЫМКАХ ЯНА БАЛЗУНКЕВІЧА**
***Пачатак XX стагоддзя***

Укладальнікі
*КУЛАГІН Анатолій Мікалаевіч*
*ГЕРАСІМОВІЧ Уладзімір Анатольевіч*

Мінск, выдавецтва «Ураджай»
На беларускай і англійскай мовах

Рэдактар *У.А.Герасімовіч.*
Рэдактар замежнага тэксту *Л.Д.Кас'янава.*
Пераклад на англійскую мову *Е.М.Яфрэмкава.*
Мастакі *Э.Э.Жакевіч, А.М.Хількевіч.*
Мастацкае рэдагаванне, камп'ютэрная апрацоўка ілюстрацый *У.В.Перліна.*
Тэхнічныя рэдактары *В.А.Віценка, Г.М.Хейфец.*
Карэктары *Л.К.Місуна, Ю.А.Паўлюкевіч.*
Заг. камп'ютэрным аддзелам *Г.Л.Гутырчык.*
Камп'ютэрная вёрстка *В.А.Дыбчук.*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 04.01.01.
Фармат 84x108 1/16. Папера афс. № 1. Гарнітура Гарамонд. Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 19,32. Ум. фарб.-адб. 39,06. Ул.-выд. арк. 14,47. Тыраж 2100 экз. Заказ 157.
Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар Рэспублікі Беларусь ОК РБ 007-98, ч. 1; 22.11.20.600.
Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва "Ураджай"» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку.
Ліцэнзія ЛВ № 8 ад 16.08.2000. 220048, Мінск, пр. Машэрава, 11.
Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка каляровага друку». 220024, Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.

**ISBN 985-04-0399-3**

© Укладанне і тэкст Кулагін А. М., Герасімовіч У. А., 2000
© Афармленне Жакевіч Э. Э., Хількевіч А. М., 2000
© Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва "Ураджай"», 2000

З якой пяшчотай і ўсхваляванасцю, пачуццём прыналежнасці і дачынення да мінулага мы ўзіраемся ў старадаўнія, пакрытыя рыжаватай пацінай часу рэліквійныя фотаздымкі – ці то паабводжаныя авалам з галубкамі закаханыя, ці сямейная пара ля студыйнай класічнай калоны, ці выгляд роднага горада, вёскі і іх архітэктурныя манументы!

Зараз фатаграфія – рэч звычайная. Але напачатаку XX ст. яна сапраўды ўспрымалася цудам тэхнікі. Фотаздымак не кідалі нядбайна ў неаформлены альбом ці запыленую скрыню, а акуратна афармлялі ў мудрагелістую рамку як каштоўную рэліквію, яго песцілі, памяшчалі на «чырвонае» месца ў хаце. Фотаздымак з'яўляўся аўтарскім творам і абавязкова ставілася прозвішча фатографа ці фірмы.

У пачатку III тысячагоддзя ад Ражства Хрыстова даволі цікава вярнуцца на стагоддзе назад праз тыя фотаздымкі, якія здольны данесці да нас дух эпохі, яе людзей, творы іх стваральнай працы, помнікі хрысціянскай культуры. І ў гэтых адносінах бясцэннай крыніцай з'яўляецца творчасць фатографа-краязнаўцы Яна Балзункевіча, які зафіксаваў на працягу 1905—1914 гг. хрысціянскія храмы Беларусі.

У шматлікіх альбомах фатографа перад намі раскрываецца шырокая панарама нацыянальнай хрысціянскай архітэктурнай спадчыны Беларусі – манументальныя касцёлы і цэрквы ад глыбокай старажытнасці (Барыса-Глебская царква ў Навагрудку) да пачатку XX ст. (касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Старыя Васілішкі), ад старажытнарускага стылю (Свята-Барыса-Глебская царква ў Гродне) да мадэрна (касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і святога Міхаіла Архангела ў в. Дунілавічы). Ілюстраваная фотакамерай архітэктурная гісторыя хрысціянства пераконвае, што Беларусь напачатаку мінулага стагоддзя не была занядбаным і забытым Богам Заходне-Рускім краем, глухой, далёкай ад еўрапейскай цывілізацыі правінцыяльнай ўскраінай. І сапраўды, не многія заходнееўрапейскія паселішчы маглі б пахваліцца сваім «Нотр-Дам дэ Пары», які ўзносіць цыклапічныя вышынныя вежы над радавой вясковай драўлянай забудовай. А такія гіганцкія нават для гарадскога маштабу храмы маюцца ў многіх беларускіх мястэчках і нават вёсках. Дастаткова глянуць на фатаграфіі храмаў у Лужках, Беразвеччы, Грыневічах.

Спадчына Яна Балзункевіча – яркае сведчанне талерантнасці фатографа. Ён не класіфіцыруе помнікі архітэктуры па канфесіянальнай прыналежнасці, размяшчае іх у альбомах так, як яны сустракаліся на яго шляху. З любоўю і павагай, грунтоўна і ўдумліва Балзункевіч ўстанаўлівае штатыў у найбольш зручнай кропцы з'ёмкі як перад каталіцкім, так і перад праваслаўным храмам.

Некаторыя фатаграфіі адлюстроўваюць працэс будаўніцтва храма, калі «ўсёй грамадой» вернікі-сяляне сваімі намаганнямі і матэрыяламі ўзводзяць святыню. І сапраўды, будаўніцтва

вясковага храма адбывалася па рашэнню той ці іншай рэлігійнай абшчыны, прыхода, парафіі, якая «па дагавору» збірала сродкі (з удавы, салдата і батрака — 1 рубель, з гаспадара — 3) і абавязвалася забяспечыць яго падводамі, матэрыялам, рабочай сілай.

Але асабліва каштоўнымі з'яўляюцца фатаздымкі Балзункевіча не захаваўшыхся архітэктурных помнікаў. Дзякуючы ім вяртаюцца ў скарбніцу нацыянальнай гісторыка-архітэктурнай спадчыны страчаныя ў ліхалеццях XX ст. храмы ў Беразвеччы, Беразіно, Бродаўцы, Вяляцічах, Гродне. Фатаграфіі Балзункевіча ўзбагацілі нашы ўяўленні аб храмах у Дзікушках, Залессі, Койданаве, Радзівонішках, Солах, Хатаевічах і ў іншых паселішчах Беларусі.

Фатограф-краязнаўца не абышоў увагай пабудовы менш рэпрэзентатыўныя – невялікія вясковыя драўляныя храмы, культавую прыналежнасць якіх часам паказвала толькі макаўка ці крыж над гонтавым дахам. Дзякуючы гэтаму мы маем магчымасць папоўніць нашы веды аб найбольш ранімай і недаўгавечнай вобласці архітэктуры — народным драўляным дойлідстве. Захоплены краязнаўца знаёміць нас са страчанымі драўлянымі храмамі ў Далматаўшчыне, Лошніцы, Мсціжы, Прылепах, Самахвалавічах і іншых.

Фотаальбомы Балзункевіча дазваляюць уявіць выгляд многіх хрысціянскіх храмаў пачатаку XX ст. і асэнсаваць тыя змены, якія яны спазналі. Гэта культавыя помнікі ў Барунах, Барысаве, Глыбокім, Самуйлавічах, Станькаве і іншыя. Надзвычайна непазнавальнымі на фоне фатаграфій Балзункевіча паўстаюць перад намі касцёлы ў Заслаўі і Сталовічах, якія, аказваецца, былі ўвенчаны маляўнічым пяцікупаллем у выніку прыстасавання пад праваслаўныя цэрквы. Неацэнная важнасць гэтага фотаархіва ў рэстаўрацыйнай практыцы рэспублікі, якая набыла шырокі размах на рубяжы тысячагоддзяў на дзяржаўным і канфесійным узроўні.

Фіксуючы творы храмавага дойлідства, Балзункевіч перадае не толькі статычную прыгажосць архітэктуры, але і жывы яе прыродны і сацыяльны антураж. Не думаю, што ён спецыяльна расстаўляў вяскоўцаў каля храма для з'ёмкі. З прыездам фатографа інстынктыўна збягалася ўся вёска — звычайныя людзі з дапытлівасцю «камянелі» перад камерай ва ўрачыстай падцягнутай позе, жадаючы таксама трапіць у аб'ектыў. Сярод персанажаў гэтых ілюстрацый — гарадавы ці прыстаў у парадней позе з рукой на шашцы, мужыкі і жанчыны, якія пакінулі па выпадку на імгненне бясконцую сялянскую працу, гуллівыя дзеткі і ўвесь антураж таго далёкага ад нас жыцця.

У альбом увайшла найбольш рэпрэзентатыўная частка фатаграфічнай спадчыны Я. Балзункевіча, якая захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Арэал яго вандраванняў ахопліваў тэрыторыю Беларусі, Прыбалтыкі і Польшчы. Прадметам цікавасці фатографа-мастака былі не толькі храмы, але і гістарычныя мясціны, старажытныя гарадзішчы, пагосты, прыдарожныя крыжы, каплічкі. З пачаткам першай сусветнай вайны фатограф вымушаны пераключыцца на фотафіксацыю яе падзей.

Фатаграфія пачатку мінулага стагоддзя – гэта бясцэнны і бясспрэчны гістарычны дакумент. Дапытліва і зацікаўлена ўглядаючыся ў гэтыя здымкі, мы набываем магчымасць ўваскрашаць у сваёй свядомасці нашу мінуўшчыну, пераносіцца ў яе ауру.

*А. М. Кулагін*

There is such tenderness, excitement and the feeling of belonging and relation to the past, with which we peer into the old relic photos covered with reddish haze! A couple of beloved, encircled with a doves-oval, a married couple near a classical studio column, a landscape of a native town or village, their architectural monuments ...

Now, photography is a usual thing. Though at the beginning of the XXth century it was taken as an extraordinary technical wonder. A photo was not negligibly dropped into an unorganized, disordered album or a dusty chest. It was accurately put into a refined frame, as a precious relic; one took care of it, put it to the "holy" place in the hut. A photo was an original author's piece of work, and necessarily bore his or a company's name indicated on it.

At the beginning of the third millennium from the Christ's Birth, it seems interesting to return back over a century through those photos which can bring to us the atmosphere of the epoque, its people and their masterpieces, the monuments of the Christian culture. In this respect, the creation work of photographer and landscape explorer Ian Balzunkevich who, during 1905-14, took the Christian churches and temples of Belarus is a valuable source.

His numerous albums open to us the broad panorama of the national architectural Christian heritage of Belarus: monumental cathedrals and churches dated back to the ancient times (Boris and Gleb Church in Navagrudak) and to the early XXth century (St. Apostles Peter and Paul Roman Catholic Church in Staryia Vassilishki village), referred to ancient Russian style (St. Boris and Gleb Church in Grodna) and to modernist style (Roman Catholic Church of St. Mary and St. Archangel Michael in Dunilavichy village). The architectural history of Christianity, illustrated with a camera, urges that Belarus, at the beginning of the past century, was not an abandoned, deserted Western-Russian land far from the European civilization. In fact, just a few Western European settlements could show off with their own "Notre Dame de Paris" which would raise up its Cyclopes' towers over the ordinary village wooden huts. There are, however, such temples gigantic even for an urban landscape in numerous Belarusian small towns and even villages. It is enough to look at the photos of the churches in Luzhki, Berazvecha, Grynyavichy.

The heritage of Ian Balzunkevich is a bright evidence of photographer's tolerance. He does not classify the monuments of architecture by their denomination, but places them in his album in the order he met them in his way. With love and respect, thoroughly and thoughtfully, Balzunkevich would fix his holder in the most convenient place in front of either Catholic or Orthodox church.

Some photos perform the process of the construction of a church, when 'in a crowd' with all the money gathered at mutual will and agreement, villains erect a holy church with their own efforts and materials. The construction of a village church was, in fact, accomplished by decision of a religious com-

munity or parish which gathered money (50 kopecks from a widow, a ruble (100 kopecks) from a householder) and took an obligation to provide with drays, material and work force.

But the most precious are Balzunkevich's photos of the architectural monuments which are not retained. Thanks to them, the churches in Berazvecha, Berazino, Brodavets, Vyalyatsichi, Grodna, lost during the hard years of the XXth century, return back to the national treasury of the historical-architectural heritage. Balzunkevich's photos have enriched our ideas of the churches in Dzikushy, Zalesse, Koidanava, Radzivonishki, Soly, Khatayevichy and many other settlements of Belarus.

A photographer, a landscape explorer, did not ignore less representative constructions, like village wooden churches, their denomination was marked only by a single cupola or a simple cross over a wooden roof. Thanks to this, we have an opportunity to enrich our knowledge of the most fragile and short-lived field of architecture, popular erection of wood. The enthusiastic explorer presents to us the lost wooden churches in Dalmataushchyna, Loshnitsa, Mstsizh, Prylepy, Samahvalavichy and many others.

Balzunkevich's photos let imagine the outlook of many Christian churches of the early XXth century and realize the changes they saw. They are cult monuments in Baruny, Barysau, Glybokaye, Samuilavichy, Stankava, etc. It seems almost impossible for us to recognize the Catholic churches in Zaslauye and Stalovichy, shown in the pictures of Balzunkevich, because they have been furnished with five-cupola roofs indicating that they are now Orthodox churches. The importance of this photo archive for the restoration practice of the republic, which has reached wide scales at the border-line of the millenniums, at the state and religious levels, is hardly evaluated.

Fixing the pieces of church construction, Balzunkevich passes not only the lost beauty of architecture, but its live natural and social entourage. I do not think that he intended to arrange villains in front of a church for taking photos. When he came to the village, all instinctively rushed to him, ordinary people stuck frozen with curiosity in the view of camera, a solemnly trimmed posture, eager to get under a shot. Among the characters of those illustrations there are a policeman or police-officer, gala postured, hand to a sword, ordinary men and women who, for such an occasion, quitted their perpetual routine for a while, and lively kids, with all entourage of that life we know so little about.

The album includes the most representative photos from the heritage of Ian Balzunkevich, which is archived in the Department of manuscripts of the Central scientific library named after Yakub Kolas, in the National Academy of Sciences of Belarus. The routs of his travels covered Belarus and Poland. The object of his interest made not only churches, but historical places, ancient urban settlements, churchyards, roadside crosses, chapels. With the beginning of the World War I, the photographer had to commit himself to the fixation of its events.

Photography of the beginning of the past century is a precious and indisputable historical document. Looking curiously and with great interest at these photos, we acquire an opportunity to revive our past with our own eyes and to get into its aura.

## 1

**Касцёл Прасвятой Тройцы**
в. Акцябр (Хатаевічы), Лагойскі раён, Мінская вобласць

**The Roman Catholic Church of the Holy Trinity**
Aktsyabr (Khatayevichy) village, Lagoisk district, Minsk region



Пабудаваны ў 1803 г. У 1884 г. зачынены і прапанаваны пад праваслаўную царкву, аднак з-за сваёй трухлявасці застаўся незапатрабаваным. У 1906 г. на сродкі графіні Кацярыны Тышкевіч намаганнямі ксяндза Рацэвіча храм быў адноўлены. Яго архітэктура набыла рысы эклектызму. Касцёл не захаваўся.



**2**

**Свята-Пакроўская царква**
в. Алекшыцы, Бераставіцкі раён, Гродзенская вобласць

**The Church of the Intercession**
Alekshytsy village, Berastavitsa district, Grodna region

Пабудавана ў 1865—1871 гг. паводле праекта архітэктара І. Міхаэліса ў эклектычным стылі з элементамі готыкі і праваслаўна-царкоўных канонаў.



# 3

**Касцёл**
в. Асава, Воранаўскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church**
Asava village, Voranava district, Grodna region

Пабудаваны ў XVIII ст. у традыцыях народнага драўлянага дойлідства. Касцёл не захаваўся.



4

**Свята-Пакроўская царква**
в. Асінагарадок, Пастаўскі раён, Віцебская вобласць

**The Church of the Intercession**
Asinagaradok village, Pastavy district, Vitsebsk region

Пабудавана ў 1856 г. з дрэва на сродкі князя Ігнацiя Любецкага на месцы папярэдняга драўлянага храма (1782 г.). Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.



5

**Спаса-Праабражэнская царква**
г.п. Астрына, Шчучынскі раён, Гродзенская вобласць

**The Transfiguration Church**
Astryna town, Shchuchyn district, Grodna region

Пабудавана ў 1855 г. Помнік эклектычнай архітэктуры з элементамі класіцызму і рэтраспектыўна-рускага стылю.



# 6

**Свята-Васкрасенская царква**
г. Ашмяны, Гродзенская вобласць

**The Holy Resurrection Church**
Ashmyany, Grodna region

Пабудавана ў 1875 г. Пасля заняпаду ў савецкі час адрэстаўрыравана і адчынена ў 1990 г. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.

# 7

**Касцёл святога Юзафа**
в. Барадзінічы, Браслаўскі раён, Віцебская вобласць

**The Roman Catholic Church of St. Jozef**
Baradzinichy village, Braslau district, Vitsebsk region

Збудаваны ў 1905 г. У 1930-я гг. зачынены, перададзены вернікам у 1990-я гг. Архітэктура храма пазбаўлена вызначанай мастацка-стылёвай афарбоўкі.





# 8

**Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла**
в. Баруны, Ашмянскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of Peter and Paul, St. Apostles**
Baruny village, Ashmyany dictrict, Grodna region

Пабудаваны ў 1747—1757 гг. паводле праекта архітэктара А. Асікевіча як царква базыльянскага манастыра. У 1833 г. манастыр перайшоў да праваслаўных. У 1922 г. храм стаў касцёлам. Выразны помнік архітэктуры "віленскага барока" і ракако. Касцёл дзейнічае.



# 9

**Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі**
г. Барысаў, Мінская вобласць

**The Virgin Mary Roman Catholic Church**
Barysau, Minsk region

Пабудаваны ў 1823 г. намаганнямі ксяндза Ануфрыя Гзоўскага і па фундацыі гарадскога старосты Адама Казаноўскага. Перабудаваны ў 1836—1837 гг. У час страшэннага пажару 1900 г. касцёл гарэў. У савецкі час выкарыстоўваўся як спартыўная зала. Помнік позняга класіцызму (ампіру). Касцёл адрэстаўрыраваны, дзейнічае.



## 10

**Касцёл святога Іаана Хрысціцеля**
в. Бенякoні, Воранаўскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of St. Joann God-father**
Benyakoni village, Voranava district, Grodna region

Пабудаваны ў XIX ст. у стылі народнага драўлянага дойлідства. Касцёл не захаваўся.



# 11

**Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла**
в. Беразвечча (у межах г. Глыбокае), Віцебская вобласць

**The Roman Catholic Church of Peter and Paul, St. Apostles**
Berazvecha village, Glybokaye district, Vitsebsk region

Будаўніцтва храма распачаў у 1751 г. архітэктар Я.К. Глаўбіц, а скончыў Я.Т. Дзідэрштэйн у 1756 г. Архітэктурны комплекс цалкам сфарміраваўся да 1767 г. У 1919 г. царква перайшла да каталікоў і асвечана ў касцёл святых Пятра і Паўла. У 1960-я гг. касцёл разбураны. Помнік архітэктуры ракако.



# 12

**Спаса-Праабражэнская царква**
г.п. Беразіно, Мінская вобласць

**The Transfiguration Church**
Berazino, Minsk region

Пабудавана ў 2-й палове XIX ст. Твор народнага драўлянага дойлідства. Царква не захавалася.



# 13

**Свята-Троіцкая царква**
в. Бродаўка, Барысаўскі раён, Мінская вобласць

**The Church of the Holy Trinity**
Brodauka village, Barysau district, Minsk region

Пабудавана ў 1868 г. на месцы папярэдняга уніяцкага драўлянага храма 1799 г. Існавала да Вялікай Айчыннай вайны. Твор народнага драўлянага дойлідства з рысамі рэтраспектыўна-рускага стылю.



## 14

**Свята-Ражства-Багародзіцкая царква**
г.п. Бягомль, Докшыцкі раён, Віцебская вобласць

**The Church of the Nativity of the Virgin**
Byagoml, Dokshytsy district, Vitsebsk region

Пабудавана ў 2-й палове XIX ст. у рэтраспектыўна-рускім стылі. Царква не захавалася.

# 15

**Свята-Пакроўская царква**
в. Бялавічы, Мастоўскі раён, Гродзенская вобласць

**The Church of the Intercession**
Byalavichy village, Masty district, Grodna region

Над уваходам у храм надпіс: "Сей храм построен тщением помещицы Гонораты Оскирко в 1822 г."
Помнік архітэктуры ампіру. Царква дзейнічае.





## 16

**Касцёл святога Юзафа**
г. Валожын, Мінская вобласць

**The Roman Catholic Church of St. Jozef**
Valozhyn, Minsk region

Пабудаваны ў 1816 г., у 1864 г. пераасвячоны ў праваслаўную царкву. Помнік архітэктуры позняга класіцызму (ампіру). Касцёл у стадыі рэстаўрацыі. Дзейнічае.



## *17*

**Царква Раўнаапостальных Канстанціна і Алены**
г. Валожын, Мінская вобласць

**The Church of Constantine and Helen, the Equi-Apostles**
Valozhyn, Minsk region

Пабудавана ў 1866 г. Помнік драўлянага дойлідства з рысамі рэтраспектыўна-рускага стылю. Царква . дзейнічае.



# 18

**Касцёл святога Іаана Хрысціцеля**
в. Васілішкі, Шчучынскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of St. Joann God-father**
Vassilishki village, Shchuchyn district, Grodna region

Пабудаваны ў 1769 г. пры кляштары дамініканцаў. З 1832 г. пераабсталяваны пад праваслаўную царкву. У 1919 г. зноў вернуты каталікам. У гады савецкай улады зачынены, каталіцкія набажэнствы адноўлены ў 1980-я гг. Касцёл — помнік архітэктуры позняга барока.



## 19

**Свята-Петра-Паўлаўская царква**
в. Вензавец, Дзятлаўскі раён, Гродзенская вобласць

**The Church of St. Peter and St. Paul**
Venzavets village, Dzyatlava district, Grodna region

Пабудавана ў 1872—1875 гг. у цэнтры вёскі. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Царква дзейнічае.



## 20

**Свята-Аляксандра-Неўская царква**
в. Верцялішкі, Гродзенскі раён

**St. Alexander Nevsky Church**
Vyartselishki village, Grodna district

Пабудавана ў 1854 г. паводле праекта архітэктара Я.М. Фардона на месцы папярэдняга струхнелага драўлянага храма. Помнік архітэктуры ампіру.

## 21

**Касцёл**
г. Вілейка, Мінская вобласць

**The Roman Catholic Church**
Vileika, Minsk region

Пабудаваны ў 2-й палове XVIII ст., пасля 1863 г. перароблены на царкву. Твор архітэктуры барочна-класіцыстычнага стылю, які ў XIX ст. набыў рысы рэтраспектыўна-рускага стылю. Касцёл не захаваўся.





## 22

**Касцёл Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі**
в. Вішнева, Валожынскі раён, Мінская вобласць

**The Annunciation of Holy Virgin Maria Roman Catholic Church**
Vishneva village, Valozhyn district, Minsk region

Пабудаваны ў 1637—1641 гг. У 1771 г. створана дэкаратыўна-насычанае аздабленне інтэр'ера, у 1906 г. зменена завяршэнне вежаў. Помнік архітэктуры барока.



## 23

**Свята-Казьма-Дзям'янаўская царква**
в. Вішнева, Валожынскі раён, Мінская вобласць

**The Church of St. Kazma and St. Dzyamyan**
Vishneva village, Valozhyn district, Minsk region

Пабудавана ў 1865 г. на ўзнёслым беразе р. Альшанка. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Царква дзейнічае.



## 24

**Касцёл Візітацыі Найсвяцейшай Дзевы Марыі**
г.п. Вялікая Бераставіца, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of the Virgin Mary**
Vyalikaya Berastavitsa, Grodna region

Пабудаваны ў 1615—1620 гг. па фундацыі ўладальніка мястэчка Гераніма Хадкевіча, у сярэдзіне XVIII ст. часткова перароблены. Помнік архітэктуры ранняга барока.



## 25

**Свята-Аляксандра-Неўская царква**
в. Вялікія Крывічы, Валожынскі раён, Мінская вобласць

**St. Alexander Nevsky Church**
Vyalikiya Kryvichy village, Valozhyn district, Minsk region

Пабудавана ў 1864 г. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Царква дзейнічае.



## 26

**Свята-Пакроўская царква**
в. Вяляцічы, Барысаўскі раён, Мінская вобласць

**The Transfiguration Church**
Vyalyatsichy village, Barysau district, Minsk region

Пабудавана ў канцы XVIII ст. з цэглы, перабудавана ў сярэдзіне XIX ст. Помнік архітэктуры класіцызму і рэтраспектыўна-рускага стылю. Царква не захавалася.

# 27

**Касцёл Найсвяцейшага Імя Марыі**
в. Вярэйкі, Ваўкавыскі раён, Гродзенская вобласць

**The Holy Name of Mary Roman Catholic Church**
Vyareiki village, Vaukavysk district, Grodna region

Пабудаваны ў 1848 г. На працягу 1870–1872 гг. перададзены пад праваслаўную царкву. Помнік архітэктуры класіцызму. Касцёл дзейнічае.





## 28

**Капліца** **The Chapel**

в. Гайцюнішкі, Воранаўскі раён, Гродзенская вобласць Gaitsiunishki village, Voranava district, Grodna region

Пабудавана ў 1633 г. як кальвінскі збор і пахавальня сям'і Нонхартаў. Помнік архітэктуры готыкі і рэнесансу. Ад капліцы засталіся руіны, часткі сцен.



## 29

**Касцёл**
в. Галынка, Гродзенскі раён

**The Roman Catholic Church**
Galynka village, Grodna district

Пабудаваны ў пачатку XX ст. у стылі архітэктуры неакласіцызму. Касцёл не захаваўся.



# 30

**Касцёл святога Іаана Хрысціцеля**
в. Гальшаны, Ашмянскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of St. Joann God-father**
Galshany village, Ashmyany district, Grodna region

Першы касцёл узведзены ў пачатку XVI ст. У 1618 г. ён перабудаваны ў стылі барока па фундацыі Паўла Сапегі пад кальвінскі збор. У пачатку 1770-х гг. будынак разабраны амаль да падмурка і на яго месцы пабудаваны новы каталіцкі храм. Помнік архітэктуры барока. У 1990-я гг. адрэстаўрыраваны.



# 31

**Свята-Георгіеўская царква**
в. Гальшаны, Ашмянскі раён, Гродзенская вобласць

**The Church of St. George**
Galshany village, Ashmyany district, Grodna region

Пабудавана ў 1901 г. з цэглы. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.



# 32

**Спаса-Праабражэнская царква**
г.п. Гарадзея, Нясвіжскі раён, Мінская вобласць

**The Transfiguration Church**
Garadzeya, Nyasvizh district, Minsk region

Пабудавана ў 1808 г. Помнік народнага драўлянага дойлідства. Царква дзейнічае.

# 33

**Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі**
г.п. Гарадзішча,
Баранавіцкі раён,
Брэсцкая вобласць

**The Roman Catholic Church of the Virgin Mary**
Garadzishcha, Baranavichy district, Brest region

Мураваны храм пабудаваны ў 1640(62) г. ваяводам Янам Камінскім. У 1839 г. пераасвечаны ў праваслаўную Свята-Троіцкую царкву. У 1919 г. зноў ператвораны ў касцёл, перабудоўваўся ў 1930 г. Зараз адноўлены. Помнік архітэктуры барока.





# 34

**Свята-Петра-Паўлаўская царква**
в. Гарнастаевічы, Свіслацкі раён, Гродзенская вобласць

**The Church of St. Peter and St. Paul**
Garnastayevichy village, Svislach district, Grodna region

Пабудавана ў 1-й палове XIX ст. з бутавага каменю. Помнік архітэктуры позняга класіцызму.



*35*

**Касцёл святога Мікалая**
в. Геранёны, Іўеўскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of St. Michael**
Geraniony village, Iuye district, Grodna region

Узведзены ў 1519 г. У 1779 г. пасля пажару адрамантаваны на сродкі Яна Пробача. Помнік архітэктуры позняга барока і класіцызму. Касцёл дзейнічае.

*36*

**Касцёл Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі**
в. Германавічы,
Шаркаўшчынскі раён,
Віцебская вобласць

**The Annunciation of Holy Virgin Maria Roman Catholic Church**
Germanavichy village,
Sharkaushyna district,
Vitsebsk region

Пабудаваны ў 1787 г. на сродкі Ігнацыя Зрыні-Шырына. Закрыты ў 1940-я гг. Аддадзены вернікам у 1988 г. Касцёл — помнік архітэктуры "віленскага барока".





# 37

**Касцёл Прасвятой Тройцы**
в. Германішкі, Воранаўскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of the Holy Trinity**
Germanishki village, Voranava district, Grodna region

Збудаваны ў 1886—1909 гг. з бутавага каменю. Помнік архітэктуры неаготыкі. Касцёл дзейнічае.

*38*

**Касцёл Прасвятой Тройцы**
г. Глыбокае,
Віцебская вобласць

**The Roman Catholic Church of the Holy Trinity**
Glybokaye, Vitsebsk region

Пабудаваны ў 1764—1782 гг. з цэглы. У 1902—1908 гг. перабудаваны архітэктарам Ю. Заро. Помнік архітэктуры позняга барока. Касцёл дзейнічае.



## 39

**Свята-Ражства-Багародзіцкі сабор**
г. Глыбокае, Віцебская вобласць

**The Church of the Nativity of the Virgin**
Glybokaye, Vitsebsk region

Пабудаваны ў 1639—1654 гг. па фундацыі Іосіфа Корсака як касцёл кармелітаў. У 1735 г. перабудаваны архітэктарам І.К.Глаўбіцам. З 1875 г. праваслаўная царква. Помнік архітэктуры "віленскага барока".





## 40

**Свята-Успенская царква**
в. Гольні, Бераставіцкі раён, Гродзенская вобласць

**The Church of the Dormition**
Golni village, Berastavitsa district, Grodna region

Пабудавана ў 1903 г. на месцы папярэдняга драўлянага храма. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.



# 41

**Свята-Сафійскі сабор** **St. Sophia Cathedral**
г. Гродна Grodna

У 1584—1587 гг. па фундацыі караля Стэфана Баторыя італьянскімі дойлідамі ўзведзены мураваны фарны касцёл. З 1807 г. асвячоны як праваслаўны Свята-Сафійскі кафедральны сабор. Пасля пажару 9 мая 1892 г. у 1896—1899 гг. перабудаваны пад кафедральны сабор у руска-візантыйскім стылі паводле праекта архітэктара М.М. Чагіна. З 1919 г. храм вернуты каталікам. Не захаваўся.



## 42

**Свята-Барыса-Глебская (Каложская) царква**
г. Гродна

**The Church of St. Boris and St. Gleb (Kalozha Church)**
Grodna

Пабудавана ў 2-й палове XII ст. з цэглы. Аднаўлялася ў пачатку XVI ст. дойлідам Богушам Багутовічам. Часткова разбурана ў 1853—1859 гг. у выніку апоўзняў, у 1872—1873 г. рэканструявана. Часткова абвалілася ў 1889 г. Знаходзіцца ў стане рэстаўрацыі, дзейнічае. Помнік старажытнарускага і візантыйскага царкоўнага дойлідства "гродзенскай школы".



43

**Касцёл Узвіжання Святога Крыжа**
г. Гродна

**The Roman Catholic Church of the Exaltation of the Holy Cross**
Grodna

Пабудаваны ў сярэдзіне XVIII ст. пры кляштары кармелітаў у стылі ракако. Яшчэ існаваў ў 1905—1910 гг., Балзункевіч быў апошнім, хто яго зафіксаваў на фотаздымку.



## 44

**Свята-Ражства-Багародзіцкая царква**
г. Гродна

**The Church of the Nativity of the Virgin**
Grodna

Збудавана ў 1720—1751 гг. італьянскім архітэктарам І.Фантана. У 1977—1992 гг. у храме размяшчаўся Беларускі дзяржаўны музей атэізму і гісторыі рэлігіі. У 1992 г. перададзены праваслаўнаму жаночаму манастыру. Помнік архітэктуры пераходнага стылю ад барока да класіцызму.



45

**Касцёл Узвіжання Найсвяцейшага Крыжа**
в. Груздава, Пастаўскі раён, Віцебская вобласць

**The Roman Catholic Church of the Exaltation of the Holy Cross**
Gruzdava, Pastavy district, Vitsebsk region

Пабудаваны на мяжы XIX—XX ст. з дрэва ў стылі эклектыкі.



## 46

**Свята-Петра-Паўлаўская царква**
в. Грыгаравічы, Лепельскі раён, Віцебская вобласць

**The Church of St. Peter and St. Paul**
Grygaravichy village, Lepel district, Vitsebsk region

Пабудавана ў 1861 г. з цэглы. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.

# 47

**Царква**
в. Грынявічы, Свіслацкі раён, Гродзенская вобласць

**The Church**
Grynyavichy village, Svislach district, Grodna region

Пабудавана ў 1792 г. як касцёл францысканцаў, які ў 1870 г. перароблены на праваслаўную царкву і ў гэтым стане адлюстраваны фатографам. Адноўлена ў 1988—1990 гг. Помнік барочна-ракайльнай архітэктуры з пазнейшым прыўнясеннем рыс рэтраспектыўна-рускага стылю XIX ст.





## 48

**Касцёл Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі**
в. Гудагай, Астравецкі раён, Гродзенская вобласць

**The Annunciation of Holy Virgin Mary Roman Catholic Church**
Gudagai village, Astravets district, Grodna region

Пабудаваны ў 1764 г. пры кляштары кармелітаў па фундацыі Юзафа Крыштофа і Людвікі Войнамі. Помнік драўлянага дойлідства ў стылі барока. Касцёл дзейнічае.



## 49

**Свята-Ражства-Багародзіцкая царква**
в. Далматаўшчына, Карэліцкі раён, Гродзенская вобласць

**The Church of the Nativity of the Virgin**
Dalmataushchyna village, Karelichy district, Grodna region

Пабудавана ў 1839 г., у 1878 г. капітальна перабудавана на сродкі прыхаджан. Помнік народнага драўлянага дойлідства.



# 50

| Царква | The Church |
|---|---|
| в. Даўбені, Валожынскі раён, Мінская вобласць | Daubeni village, Valozhyn district, Minsk region |

Пабудавана ў 1869 г. з бутавага каменю. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Царква адрэстаўрыравана, дзейнічае.



# 51

**Касцёл святога Антонія Падуанскага**
в. Дварэц, Дзятлаўскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of St. Anthony of Padua**
Dvarets village, Dzyatlava district, Grodna region

Пабудаваны ў XIX ст. у традыцыях народнага драўлянага дойлідства. Касцёл не захаваўся.



# 52

**Касцёл**
в. Дзікушкі, Лідскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church**
Dzikushki village, Lida district, Grodna region

Пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. з цэглы. Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Не захаваўся.



# 53

**Кальвінскі збор**
г. Дзяржынск (Койданава), Мінская вобласць

**The Calvinist Monastery**
Dzyarzhynsk (Koidanava), Minsk region

Узведзены ў 1613 г. Крыштофам Мікалаем Радзівілам (Перуном). Перабудаваны ў 1884 г. Помнік гатычнай архітэктуры з рысамі абарончага дойлідства. Не захаваўся.



## *54*

**Касцёл** **The Roman Catholic Church**
в. Дзярэчын, Зэльвенскі раён, Гродзенская вобласць Dzyarechyn, Zelva district, Grodna region

Пабудаваны ў XVIII ст., у 1866 г. згарэў. У пачатку XX ст. адбудаваны і прыстасаваны пад царкву. Архітэктура храма не набыла выразнай стылёвай характарыстыкі.



## 55

**Касцёл Успення Найсвяцейшай Дзевы Марыі**
г.п. Дзятлава, Гродзенская вобласць

**The Dormition of Holy Virgin Mary Roman Catholic Church**
Dzyatlava, Grodna region

Пабудаваны ў 1624—1646 гг. на месцы папярэдняга драўлянага храма па фундацыі Льва Сапегі. Пасля вялізнага пажару ў 1743 г. галоўны фасад і інтэр'ер перабудаваны (да 1751 г.) архітэктарам А. Асікевічам па фундацыі М. Ф. Радзівіла. Помнік архітэктуры "віленскага барока". Касцёл дзейнічае.



## 56

**Спаса-Праабражэнская царква**
г.п. Дзятлава, Гродзенская вобласць

**The Transfiguration Church**
Dzyatlava, Grodna region

Пабудавана ў пачатку XX ст. у традыцыях народнага драўлянага дойлідства.



57

**Царква**
в. Дубічы, Ваўкавыскі раён, Гродзенская вобласць

**The Church**
Dubichy village, Vaukavysk district, Grodna region

Пабудавана ў 2-й палове XIX ст. з бутавага каменю і цэглы. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.



# 58

**Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі**
в. Дуды, Іўеўскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of the Nativity of the Virgin**
Dudy village, Iuye district, Grodna region

Пабудаваны ў 1772 г. Помнік драўлянай архітэктуры барока. Касцёл дзейнічае.



# 59

**Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і святога Міхаіла Архангела**
в. Дунілавічы, Пастаўскі раён, Віцебская вобласць

**The Roman Catholic Church of St. Mary and St. Archangel Michael**
Dunilavichy village, Pastavy district, Vitsebsk region

Пабудаваны ў 2-й палове XIX ст. У 1890 г. гарэў, адноўлены ў пачатку XX ст. Пасля перабудовы набыў рысы архітэктуры мадэрна. Касцёл не захаваўся.



# 60

**Касцёл Прасвятой Тройцы**
в. Дунілавічы, Пастаўскі раён, Віцебская вобласць

**The Roman Catholic Church of the Holy Trinity**
Dunilavichy village, Pastavy district, Vitsebsk region

Пабудаваны ў 1769—1773 гг. У 1866 г. перададзены пад праваслаўную царкву. З 1919 г. зноў дзейнічае як касцёл. Помнік архітэктуры барока.



# 61

**Касцёл Ушэсця Найсвяцейшай Дзевы Марыі**
г.п. Жалудок, Шчучынскі раён, Гродзенская вобласць

**The Ascension of Holy Virgin Mary Roman Catholic Church**
Zhaludok village, Shchuchyn district, Grodna region

Пабудаваны ў 1854 г. архітэктарам Каралям Падчашынскім. Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Касцёл дзейнічае.



## 62

**Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла**
в. Жупраны, Ашмянскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of Peter and Paul, St. Apostles**
Zhuprany village, Ashmyany district, Grodna region

Пачатае ў 1854 г. будаўніцтва неўзабаве было прыпынена і скончана толькі ў 1875 г. графам Адамам Чапскім. Архітэктура храма мае выразныя рысы стылю рэтраготыкі. Касцёл дзейнічае.



# 63

**Касцёл Адшуквання Святога Крыжа**
в. Жырмуны, Воранаўскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of the Search for the Holy Cross**
Zhyrmuny village, Voranava district, Grodna region

Храм пабудаваны Каралінай Радзівіл у 1789 г. паводле праекта архітэктара Я. Падчашынскага. Помнік архітэктуры класіцызму. Касцёл дзейнічае.



## 64

**Свята-Дабравешчанская царква**
в. Житомля, Гродзенскі раён

**The Church of the Annunciation**
Zhytomlya village, Grodna district

Пабудавана ў канцы XVII – пачатку XVIII ст., у 1864 г. капітальна адрамантавана. Помнік народнага драўлянага дойлідства. Царква дзейнічае.



65

**Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла**
в. Забалаць, Воранаўскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of Peter and Paul, St. Apostles**
Zabalats village, Voranava district, Grodna region

Пабудаваны ў 1803—1812 гг. Помнік архітэктуры класіцызму. Касцёл дзейнічае.

*66*

**Касцёл Прасвятой Тройцы**
в. Забрэжжа,
Валожынскі раён,
Мінская вобласць

**The Roman Catholic Church of the Holy Trinity**
Zabrezha village,
Valozhyn district, Minsk region

Пабудаваны ў пачатку XX ст. у стылі неаготыкі. Існаваў да Вялікай Айчыннай вайны.





# 67

**Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі**
в. Задарожжа, Глыбоцкі раён, Віцебская вобласць

**The Roman Catholic Church of St. Mary**
Zadarozha, Glybokaye district, Vitsebsk region

Пабудаваны ў 1910 г. у цэнтры вёскі, акаймаваны бутавай агароджай з 3-арачнай брамай і вуглавой 2-яруснай шатровай званіцай. Помнік архітэктуры неаготыкі.

*68*

**Свята-Пакроўская царква**
в. Залессе, Глыбоцкі раён, Віцебская вобласць

**The Church of the Intercession**
Zalesse village, Glybokaye district, Vitsebsk region

Пабудавана ў 1-й палове XVI ст. уладальнікамі маёнтка Глябовічамі і Корсакамі як касцёл. У канцы XIX ст. перароблены на царкву. Помнік архітэктуры барока і рэтраспектыўна-рускага стылю. Царква дзейнічае.





## 69

**Свята-Георгіеўская царква**
в. Залужжа, Стаўбцоўскі раён, Мінская вобласць

**The Church of St. George**
Zaluzha village, Staubtsy district, Minsk region

Пабудавана з драўлянага бруса на рубяжы XIX—XX ст. Помнік эклектычнай архітэктуры з выкарыстаннем форм класіцызму і традыцый народнага драўлянага дойлідства. Царква дзейнічае.

## *70*

**Спаса-Праабражэнская царква**
г. Заслаўе, Мінскі раён

**The Transfiguration Church**
Zaslauye, Minsk district

Пабудавана князем Іванам Глябовічам у 1577 г. з цэглы як кальвінскі збор, пазней касцёл св. Архангела Міхаіла. У 1865 г. асвячоны як Спаса-Праабражэнская царква. Помнік абарончакультавай архітэктуры рэнесансу. Царква дзейнічае.





## 71

**Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі**
г. Заслаўе, Мінскі раён

**The Roman Catholic Church of St. Mary**
Zaslauye, Minsk district

Храм пабудаваны ў 1774 г., верагодна, італьянскім архітэктарам П.А. Фантана. У 1868 г. перададзены пад царкву Ражства Багародзіцы. У 1998 г. адрэстаўрываваны і вернуты каталікам. Касцёл — помнік архітэктуры барока. На здымку Балзункевіча адлюстраваны стан храма пасля перабудовы пад царкву, у выніку якой ён набыў рысы руска-візантыйскага стылю.



# 72

**Свята-Крыжаўзвіжанская царква**
в. Зельзін, Пружанскі раён, Брэсцкая вобласць

**The Church of the Exaltation of the Holy Cross**
Zelzin village, Pruzhany district, Brest region

Пабудавана са званіцай у 1878 г. з бутавага каменю. Помнік эклектычнай архітэктуры.



## 73

**Свята-Троіцкая царква**
г.п. Зэльва, Гродзенская вобласць

**The Church of the Holy Trinity**
Zelva, Grodna region

Пабудавана ў 1815 г. як касцёл на падмурку драўлянай царквы 1434 г., перабудавана ў 1904—1909 гг. паводле праекта архітэктара І.К. Плотнікава. Помнік архітэктуры класіцызму і рэтраспектыўна-рускага стылю. Царква дзейнічае.



# 74

**Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла**
г.п. Іўе, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of Peter and Paul, St. Apostles**
Iuye, Grodna region

Пабудаваны ў 1787 г. на месцы драўлянага храма 1600—1633 гг. Помнік архітэктуры ранняга барока. Касцёл дзейнічае.



# 75

**Касцёл Прасвятой Тройцы**
в. Ішкалдзь, Баранавіцкі раён, Брэсцкая вобласць

**The Roman Catholic Church of the Holy Trinity**
Ishkaldz village, Baranavichy district, Brest region

Пабудаваны перад 1472 г. па фундацыі Мікалая Неміровіча. У 1866—1919 гг. з'яўляўся праваслаўнай Свята-Троіцкай царквой; у 1918 г. зноў вернуты каталікам. У 1970-я гг. адрэстаўрыраваны. Помнік архітэктуры позняй готыкі. Касцёл дзейнічае.



## 76

**Касцёл Прасвятой Тройцы**
в. Ішчална, Шчучынскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of the Holy Trinity**
Ishchalna village, Shchuchyn district, Grodna region

Пабудаваны ў 1758 г. на месцы папярэдняга храма 1670—1678 гг. Помнік архітэктуры позняга барока. Касцёл дзейнічае.

# 77

**Свята-Троіцкая царква**
в. Казяны, Браслаўскі раён, Віцебская вобласць

**The Church of the Holy Trinity**
Kazyany village, Braslau district, Vitsebsk region

Пабудавана на мяжы XIX—XX ст. (да 1903 г.). Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Царква адноўлена, дзейнічае.





# 78

**Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Іісуса**
в. Канвелішкі, Воранаўскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of the Holy Heart of Jesus**
Kanvelishki village, Voranava district, Grodna region

Пабудаваны ў 1808 г. Помнік драўлянага дойлідства з рысамі стылю барока. Касцёл дзейнічае.



## 79

**Царква**
в. Карлавічы, Драгічынскі раён, Брэсцкая вобласць

**The Church**
Karlavichy village, Dragichyn district, Brest region

Пабудавана ў пачатку XX ст. у эклектычным стылі. Царква не захавалася.



# 80

**Свята-Петра-Паўлаўская царква**
г.п. Карэлічы, Гродзенская вобласць

**The Church of St. Peter and St. Paul**
Karelichy, Grodna region

Пабудавана ў 1866 г. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.



## 81

**Свята-Троіцкая царква**
в. Княгінін, Мядзельскі раён, Мінская вобласць

**The Church of the Holy Trinity**
Knyaginin village, Myadzel district, Minsk region

Пабудавана ў XIX ст. на месцы папярэдняга уніяцкага храма, вядомага з 1713 г. Помнік народнага драўлянага дойлідства. Царква дзейнічае.

*82*

**Свята-Міхайлаўская царква**
в. Красналукі, Чашніцкі раён, Віцебская вобласць

**The Church of St. Michael**
Krasnaluki village, Chashniki district, Vitsebsk region

Пабудавана ў 2-й палове XIX ст. (да 1887 г.). Твор драўлянага дойлідства рэтраспектыўна-рускага стылю. Царква не захавалася.





## 83

**Касцёл святога Іаана Хрысціцеля**
в. Крэва, Смаргонскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of St. Joann God-father**
Kreva village, Smargon district, Grodna region

Пабудаваны на мяжы XVI—XVII ст. У 1868 г. перароблены пад царкву (адноўлены ў 1906 г.). Помнік архітэктуры барока з набытымі ў XIX ст. рысамі рэтраспектыўна-рускага стылю. Касцёл дзейнічае.



## 84

**Касцёл святых Сымона і Тадэвуша**
в. Лаздуны, Іўеўскі раён, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of St. Simon and St. Tadeus**
Lazduny village, Iuye district, Grodna region

Пабудаваны ў XIX ст. у традыцыях народнага драўлянага дойлідства. Не захаваўся. На яго месцы ў 1904—1910 гг. узведзены мураваны касцёл.



# 85

**Свята-Мікалаеўская царква**
в. Латыгаль, Вілейскі раён, Мінская вобласць

**The Church of St. Michael**
Latygal village, Vileika district, Minsk region

Пабудавана ў 1771 г. па фундацыі графа Салагуба як уніяцкая. У 1871 г. асвячона пад праваслаўную царкву. Помнік народнага драўлянага дойлідства з рысамі стылю барока. Царква дзейнічае.



## *86*

**Свята-Мікалаеўская царква**
в. Лаша, Гродзенскі раён

**The Church of St. Michael**
Lasha village, Grodna region

Пабудавана ў 1822 г. Помнік народнага драўлянага дойлідства. Царква дзейнічае.

# 87

**Свята-Троіцкая царква**
в. Лебедзева,
Маладзечанскі раён,
Мінская вобласць

**The Church of the Holy Trinity**
Lebedzeva village,
Maladzechna district,
Minsk region

Пабудавана ў 1869 г. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Царква дзейнічае.





## 88

**Свята-Міхайлаўская царква**
г. Ліда, Гродзенская вобласць

**The Church of St. Michael**
Lida, Grodna region

Будавалася на працягу 1797(94)—1825(24) гг. як касцёл св. Іосіфа пры кляштары піяраў. У 1863 г. перароблены на праваслаўную царкву. У 1960-я гг. будынак прыстасаваны пад планетарый. Помнік архітэктуры класіцызму з выкарыстаннем дарычнага ордэра. Царква дзейнічае.



*89*

**Касцёл Узвіжання Святога Крыжа**
г. Ліда, Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of the Exaltation of the Holy Cross**
Lida, Grodna region

Пабудаваны ў 1770 г. з цэглы як фарны. Мураваная агароджа з барочнай брамай не захаваліся. Помнік архітэктуры барока. Касцёл дзейнічае.



## 90

**Свята-Міхайлаўская царква**
в. Лошніца, Барысаўскі раён, Мінская вобласць

**The Church of St. Michael**
Loshnitsa village, Barysau district, Minsk region

Пабудавана ў 1816 г. Твор народнага драўлянага дойлідства. Царква не захавалася.



# 91

**Свята-Ражства-Багародзіцкая царква**
в. Лужкі, Шаркаўшчынскі раён, Віцебская вобласць

**The Church of the Nativity of the Virgin**
Luzhki village, Sharkaushyna district, Vitsebsk region

Пабудавана ў 1794 г. з цэглы на сродкі Валерыяна Жабы. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.

## 92

**Касцёл святога Міхаіла Архангела**
в. Лужкі,
Шаркаўшчынскі раён,
Віцебская вобласць

**The Roman Catholic Church of St. Michael the Archangel**
Luzhki village,
Sharkaushyna district,
Vitsebsk region

Пабудаваны ў 1744—1756 гг. па фундацыі Валерыяна Жабы. У 1843 г. прыстасаваны пад праваслаўную царкву. Касцёл вернуты каталікам у 1988 г., адноўлены і дзейнічае. Помнік архітэктуры ракако.





# 93

**Касцёл святога Тадэвуша**
в. Лучай, Пастаўскі раён, Віцебская вобласць

**The Roman Catholic Church of St. Tadeus**
Luchai village, Pastavy district, Vitsebsk region

Пабудаваны ў 1766—1776 гг. па фундацыі Тадэвуша Агінскага як езуіцкі. У 1-й палове XIX ст. часткова перабудаваны. Помнік архітэктуры з рысамі позняга барока і класіцызму. Касцёл дзейнічае.

*94*

**Свята-Троіцкая царква**
в. Лявонпаль, Міёрскі раён, Віцебская вобласць

**The Church of the Holy Trinity**
Lyavonpal village, Miyory district, Vitsebsk region

Пабудавана ў 1774 г. як уніяцкая. Помнік народнага драўлянага дойлідства з рысамі стылю барока. Царква дзейнічае.





## 95

**Свята-Пакроўская царква**
г. Маладзечна, Мінская вобласць

**The Church of the Intercession**
Maladzechna, Minsk region

Пабудавана ў 1867—1871 гг. з цэглы. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Царква дзейнічае.



# 96

**Касцёл святога Антонія Падуанскага**
в. Малая Бераставіца, Бераставіцкі раён,
Гродзенская вобласць

**The Roman Catholic Church of St. Anthony of Padua**
Malaya Berastavitsa, Berastavitsa district, Grodna region

Пабудаваны ў 1850-я гг. па фундацыі памешчыка Антона Ваўкавыцкага. У 1864 г. зачынены. Храм перададзены вернікам і адноўлены ў 1993 г. Помнік архітэктуры з рысамі рэтраспектыўна-рускага стылю.



## 97

**Свята-Дзмітрыеўская царква**
в. Малая Бераставіца, Бераставіцкі раён,
Гродзенская вобласць

**The Church of St. Demetrius**
Malaya Berastavitsa, Berastavitsa district, Grodna region

Пабудавана ў 1866 г. Помнік архітэктуры рэстраспектыўна-рускага стылю. Царква дзейнічае.



# 98

**Спаса-Праабражэнская царква**
в. Мамаі, Глыбоцкі раён, Віцебская вобласць

**The Transfiguration Church**
Mamai village, Glybokaye district, Vitsebsk region

Пабудавана ў XVIII ст. як касцёл. Пасля 1866 г. — праваслаўная царква. Помнік архітэктуры з рысамі стыляў барока і класіцызму. Царква дзейнічае.



# 99

**Свята-Ражства-Багародзіцкая царква**
в. Масаляны, Бераставіцкі раён, Гродзенская вобласць

**The Church of the Nativity of the Virgin**
Masalyany village, Berastavitsa district, Grodna region

Пабудавана ў 1796 г. як касцёл, у 1865—1867 гг. перароблены на царкву. Помнік архітэктуры позняга барока. Царква дзейнічае.



## *100*

**Свята-Мікалаеўская царква**
в. Мікалаева, Міёрскі раён, Віцебская вобласць

**The Church of St. Michael**
Mikhalayeva village, Miyory district, Vitsebsk region

Пабудавана ў 1912 г. з цэглы. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.



## 101

**Царква**
в. Мільча, Вілейскі раён, Мінская вобласць

**The Church**
Milcha village, Vileika district, Minsk region

Пабудавана ў канцы XIX ст. з бутавага каменю і цэглы. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.

